*А. А. ГУР'ЕВА*

# РАЗВІЦЦЁ АДВАКАТУРЫ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД ПАДРЫХТОЎКІ І ЎВЯДЗЕННЯ Ў ДЗЕЯННЕ СТАТУТАЎ ВКЛ 1529, 1566, 1588 гг.

Рассматриваются вопросы и тенденции развития института адвокатуры на территории Беларуси в период действия Статутов Великого Княжества Литовского 1529, 1566, 1588 гг. Дается характеристика и анализ основных законодательных положений об адвокатской деятельности в рассматриваемый период времени.

In the article are considered the questions and trends of development of the institute of legal profession on the territory of Belarus during the period of the Statutes of the Grand Duchy of Lithuania 1529, 1566, 1588. The characteristic and the analysis of the basic legal provisions of lawyer activity during the considered period of time are given.

Узнікненне і развіццё інстытута адвакатуры з'яўляецца маладаследаваным пытаннем гісторыі Беларусі. Між тым дзейнасць прафесійных адвакатаў (якія на Беларусі ў той час называліся пракуратарамі) у статутны перыяд была звыклай і характэрнай з'явай і таму прыцягвала да сябе пільную ўвагу даследчыкаў.

Першапачаткова на тэрыторыі Беларусі прафесійная адвакатура з'явілася ў сувязі з рэцэпцыяй Магдэбургскага права. У XVI ст. развіццё права на Беларусі набывае столь значны характар, што фарміруецца ўласны значны масіў заканадаўства ў выглядзе Статутаў 1529, 1566, 1588 гг., прыняцце якіх стала вяршыняй прававой думкі і свядомасці беларускага народа ў большай меры, а таксама іншых народаў ВКЛ. Хоць дзейнасць пракуратараў працягвала пераважна рэгулявацца палажэннямі Магдэбургскага права, аднак ужо ў Статутах значная колькасць артыкулаў была прысвечана адвакатуры, гэта сведчыць аб тым, што побач з Магдэбургскім правам уласнае заканадаўства таксама «дарасло» да таго ўзроўню, калі пачало рэгуляваць узгаданы інстытут.

У той час як Магдэбургскае права рэгулявала дзейнасць пракуратараў пераважна ў гарадах, Статуты не абмяжоўвалі адвакацкую дзейнасць па тэрытарыяльнаму прынцыпу. Неабходнасць дзейнасці пракуратараў па-за межамі гарадоў, а таксама рэгулявання іх працы агульналітоўскім заканадаўствам была выклікана палітычнымі і сацыяльна-эканамічнымі прычынамі. Найперш гэта шчыльныя палітычныя, культурныя і эканамічныя сувязі з Польшчай, асабліва пасля Уніі 1569 г. Па-другое, гэта ўплыў заходнееўрапейскай эканомікі і ідэалогіі, што выразілася ў зараджэнні на тэрыторыі Беларусі капіталістычных грашова-таварных адносін і ўкараненні ідэй Рэфармацыі і Асветніцтва. Гэта прывяло да ўскладнення грамадскіх праваадносін і пашырэння ролі права ў жыцці грамадства. Для найбольш поўнага забеспячэння правоў асоб, у тым ліку і юрыдычных (хоць заканадаўства і не вызначала тэрміна «юрыдычная асоба», але апошнія фактычна з'яўляліся паўнавартаснымі ўдзельнікамі праваадносін, напрыклад цэхі, гільдыі, брацтвы), адбываецца ўдасканаленне спаборніцкага судовага працэсу, што робіць асабліва неабходнай наяўнасць інстытута

прафесійнай адвакатуры. Адпаведна патрабуецца рэгуляванне дзейнасці адвакатуры на самым высокім заканадаўчым узроўні, што і ўвасобілі Статуты ВКЛ. Нягледзячы на добры для таго перыяду заканадаўчы ўзровень статутнага права, побач працягвала існаваць звычаёвае права (хоць Статуты 1529 і 1588 гг. абмяжоўвалі і нават забаранялі яго ўжыванне), згодна з якім побач з прафесійнымі адвакатамі працягвалі дзейнічаць наёмныя (дзякі, пісары, служэбнікі, шляхціцы) і натуральныя (родзічы і сябры) прадстаўнікі.

Варта адзначыць, што артыкулы Статутаў ВКЛ адносна адвакацкай дзейнасці шмат у чым грунтаваліся на багатым папярэдне назапашаным досведзе. Адвакатура ў ВКЛ, пераважна ў гарадах, зарадзілася і дасягнула значнага росквіту яшчэ ў дастатутны перыяд, склалася пэўная судова-працэсуальная практыка, не хапала толькі заканадаўчага афармлення адвакацкай прафесіі. Статуты ВКЛ у значнай ступені рэгулявалі не толькі сам судовы працэс, у якім удзельнічалі адвакаты, а таксама арганізацыйныя патрабаванні да адвакацкай супольнасці і яе дзейнасці, вызначалі, хто мог быць пракуратарам, прафесійныя паводзіны пракуратараў. Заканадаўчае замацаванне магчымасці ўдзелу адваката ў судовым працэсе ўпершыню было афармлена ў Статуце 1529 г., адзіны артыкул якога быў непасрэдна прысвечаны пракуратарам. Гэты артыкул забараняў іншаземцам займацца адвакацкай дзейнасцю[1]. Па ўсёй верагоднасці гэта было зроблена, каб абараніць інтарэсы дзяржавы і грамадзян, бо фактычна адвакацтва было прыроўнена да дзяржаўнай службы, дзе іншаземцы таксама не маглі займаць пасад, што гаворыць аб вялікай увазе, якую заканадаўца надаваў гэтай прафесіі, і яе асаблівай значнасці ў дзяржаве. Літоўская метрыка сведчыць аб тым, што гэтае правіла не было простай фармальнасцю, праверка аселасці была адным з пацвярджэнняў правамоцнасці адваката і ўмовай яго допуску да суда. Прыкладам дзеяння гэтай нормы на практыцы служыць справа 1533 г. аб гвалтах і наездах пана Гайка: «Пан виленьский на то поведил и за то просил ижбы был захован водле Статута, абы прокуратур чужоземецъ не был. Его м(и)л(о)стъ, г(о)с(по)д(а)]ръ, велел право отворыти и, выслухавшы Статута, его м(и)л(о)сть рачыл росказати о таковыи речы мети прокуратора оселого, который бы мел оселость в том панстве его м(и)л(о)сти, Великомъ князстве Литовскомъ»[2].

Безумоўна, Статуты ВКЛ не маглі поўнасцю адлюстраваць усе бакі адвакацкай дзейнасці, яны ўтрымлівалі толькі найбольш важныя для дзяржавы палажэнні. Аб працы тагачасных адвакатаў можна даведацца са шматлікіх апісанняў судовых працэсаў, змешчаных у Літоўскіх метрыках. Так, справа Мікалая Шымковіча, гаспадарскага двараніна, да Нікелемя аб скрадзеных срэбных кубках ад 1541 г. сведчыць аб тым, што пракуратар мог быць прыцягнуты да ўдзелу ў судовым пасяджэнні нават на завяршаючай яго стадыі, а таксама мог выступаць побач са сваім кліентам[3].

Дапускалася, што акрамя пракуратара на працэс пасылаўся і іншы прадстаўнік (сябар або родзіч), аб чым, напрыклад, сведчыць запіс метрыкі ад 1533 г.: «Пан Пацъ через кн(я)зя Семена и черезъ прокуратора усказал, што ж немоцонъ есть и затымъ не стал»[4].

Пракуратары выступалі ва ўсіх справах, як у крымінальных, так і ў грамадзянскіх[5]. Прычым па цяжкіх крымінальных справах суддзя часам сам раіў наняць пракуратара для прадстаўлення інтарэсаў і нават даваў час для таго, каб абвінавачаны знайшоў сабе адваката: «Ино г(о)с(по)д(а)рь, его м(и)л(о)сть, рачыл, з радами его м(и)л(о)сти на томъ розмыслившися, вырокъ вчинити: а то тымъ обычаемъ, иж Лубъницкий объвинен есть такими речами, яко бы наехати мелъ на двор королевое, ее м(и)л(о)сти, и естли бы ся такъ нашъло, тогды бы Лубъницкий мел горло тратити. А для таковых причым рачыл его м(и)л(о)сть допустити Лубъницкому также прокуратора мети и дал то его м(и)л(о)сть Лубъницкому рокъ – от сего дня за чотыри недели маеть вжо Лубъницкого в чотырох неделях поставити пан виленьский. Будет(ь) ли мети прокуратора, будеть через него отказовати, пакъ ли не будеть его мети, мусит(ь) самъ на тоть часъ зложеным отповедати» [6].

Варта адзначыць, што ў перыяд часу паміж прыняццем першага і другога Статутаў ВКЛ назіралася з'ява павольнай трансфармацыі нормаў права ў сферы адвакатуры, што выразілася ва ўзаемадзеянні Магдэбургскага права са звычаёвым і пісаным агульналітоўскім правам і выпрацоўкай агульных правілаў і падыходаў. У адзначаны перыяд адбываецца росквіт юрыдычнай практыкі адвакатаў, Літоўскія метрыкі змяшчаюць значна больш апісанняў юрыдычных спраў у параўнанні з пазнейшымі перыядамі, дзе бачны механізмы пошуку найбольш удалых формаў удзелу ў судовым працэсе пракуратараў. Адбываецца ўзаемапранікненне розных формаў права, што разам з праватворчасцю літоўскіх судоў і асобных суддзяў нарэшце прыводзіць да ўвасаблення ў Статуце 1566 г. адзінага адносна стройнага прававога інстытута, які рэгуляваў дзейнасць адвакатаў. Звычаёвае права паступова выводзіцца з арсенала сродкаў прававога рэгулявання, тым не менш узбагаціўшы пры гэтым заканадаўства і надаўшы яму свае лепшыя набыткі.

Статут 1566 г. змяшчае больш артыкулаў, чым першы Статут. Гэтыя артыкулы тычыліся пракуратараў і рэгламентавалі патрабаванні, што прад'яўляліся да дзейнасці адваката, яго прафе-

сійнай і чалавечай годнасці, вызначаючы асновы адвакацкай этыкі і паводзін адваката ў працэсе, а таксама яго адказнасць за вядзенне справы. Здрада адваката свайму даверніку каралася смерцю[7]. Статут 1566 г. замацоўвае важнае палажэнне аб тым, што асабістая яўка на судовы працэс нават па крымінальных справах ужо не з'яўляецца абавязковай. Бок па справе меў права прысылаць замест сябе прадстаўніка без тлумачэння прычын сваёй адсутнасці. Гэта, безумоўна, быў крок наперад у развіцці інстытута адвакатуры, бо заканадаўча дазваляў пракуратарам удзельнічаць у судовых працэсах на сталай аснове. Пры гэтым асаблівае значэнне надавалася афармленню паўнамоцтваў на прадстаўніцтва. Судовая практыка сведчыць, што да прыняцця другога Статута ў судовыя кнігі нават не запісваліся прозвішчы пракуратараў, іх паўнамоцтвы судом правяраліся не заўсёды. Статут 1566 г. ужо замацоўвае патрабаванні да дакументаў, у якіх змяшчаюцца паўнамоцтвы: «…листомъ отворонымъ до вряду прокуратора умоцованого послати и ему ручъ свою злецити, въ которомъ листъ при печати своей маеть о приложенье печатей шляхтича въры годного просити, тогды таковый лестъ въ которомъ поменившы речъ, о што идетъ, остатокъ на позовъ указати зыскъ и трату доложити, и такъ вжо за нимъ прокураторъ моцный у права быти маеть»[8]. Прозвішчы пракуратараў пачынаюць запісвацца ў судовыя кнігі. Неабходнасць гэтага была выклікана напрацаванай судовай практыкай і мела мэтай недапушчэнне фальсіфікацыі дакументаў на прадстаўніцтва, адказнасць за апошняе ў выглядзе смерці была ўсталявана яшчэ ў 1529 г.

Адвакаты па рашэнні суда павінны былі аказваць бясплатную дапамогу маламаёмасным[9].

Статут па-ранейшаму забараняў прадстаўляць інтарэсы на судзе праз чужаземцаў, акрамя таго дадаўшы: «…а судья подсудокъ и писаръ такъ тежъ и тые, которые только духовные имънья держать, прокураторовать не мают»[10]. Відавочна, што гэта было зроблена, каб зменшыць іх уплыў на вынікі справы праз свой статус. Такім чынам, калі ў дастатутны перыяд дзякі і пісары выконвалі функцыі прадстаўнікоў, то Статутам 1566 г. была ўведзена забарона на іх удзел у судовым працэсе ў якасці адвакатаў, стварыўшы такім чынам манаполію пракуратараў на судовае прадстаўніцтва. Пазней гэтае ж правіла было прадублявана ў арт. 58 Статута 1588 г., што пацвярджала неабходнасць такой нормы.

У Статуце 1566 г. з'яўляюцца элементы прафесійнай тайны пракуратараў, што выразілася ў забароне на разгалошванне звестак, атрыманых ад кліента: «…кгды бы который прокураторъ поднявшысе кому речъ его мовити и справовати, а вывъдывшисе на немъ тое справы и листовъ его огледавшы, выдалъ его въ томъ сторонъ противной…тогды таковый, естли есть шляхтичъ, честь тратить, а не шляхтичъ горло тратить»[11].

Статут значна абараняў правы кліентаў ад нядобрасумленнасці пракуратараў. Так, арт. 36 Статута 1566 г. прадугледжваў адказнасць за нняўку ў суд без уважлівай прычыны (хваробы), а арт. 37 абмяжоўваў паўнамоцтвы адвакатаў даручэннямі кліентаў, і калі адвакат выходзіў за межы даручэнняў, то ён самастойна нёс адказнасць за наступствы сваіх дзеянняў[12].

З пункту гледжання заканадаўчай тэорыі і практыкі палажэнні Статута 1566 г. адносна адвакатуры былі досыць удалымі, гэта пацвярджаецца тым, што наступны Статут шмат у чым паўтарае гэтыя палажэнні, прычым у некаторых артыкулах ледзьве не тэкстуальна. Такім чынам, Статут 1566 г. стаў добрым прыкладам заканадаўчага замацавання дзейнасці пракуратараў, бо ў яго аснову была пакладзена багатая судовая практыка, заснаваная на Магдэбургскім, звычаёвым і агульналітоўскім пісаным праве. Прагрэс другога Статута ВКЛ у параўнанні з першым быў відавочны, нават Статуту 1588 г. і судовай практыцы, заснаванай на ім, не ўдалося ў такой меры перасягнуць Статут 1566 г. з яго багацейшай судовай практыкай. Гэта сведчыць ад тым, што інстытут адвакатуры ў ВКЛ у асноўным сфарміраваўся і набыў даволі значнае заканадаўчае замацаванне, а гэта значыць дасягнуў свайго росквіту ў перыяд 1529–1566 гг. Статут 1588 г. ужо толькі ўдасканаліў набыткі Статута 1566 г., бо асноўныя паняцці і падыходы да дзейнасці пракуратараў ужо былі сфармуляваны ў Статуце ВКЛ 1566 г.

Статут 1588 г. працягнуў традыцыі сваіх папярэднікаў адносна рэгулявання адвакацкай дзейнасці. Ён улічваў багатую судовую практыку, што дазволіла яму выправіць некаторыя недахопы і дапрацаваць палажэнні, якія рэгулявалі адвакацкую дзейнасць. Так, напрыклад, у адрозненне ад папярэдніх Статутаў дазвалялася ў асобных выпадках прадстаўляць інтарэсы кліентаў іншаземцам: «А па ўрадавых даручэннях могуць быць адвакатамі і неаселыя людзі ў тым панстве Вялікім княстве Літоўскім… пры ўмове, што прадстаўніку або адвакату асабіста даручылі справу сваю перад урадам якім-небудзь у канцылярыі нашай гаспадарскай або перад урадам земскім і замкавым»[13].

Статут 1588 г. удасканальвае правілы пацвярджэння паўнамоцтваў пракуратараў: «А прадстаўнік або адвакат іншы і іначай устаноўлены і ў судзе прыняты не павінен быць, перш чым яму асабіста даручыў справу сваю перад урадам якім-небудзь у канцылярыі нашай гаспадарскай або перад урадам земскім і замкавым, і з таго ўрада выпіску з кніг павінен узяць і яе таму адвакату свайму даць»[14].

Выконвалі пракуратары і сацыяльныя абавязкі перад грамадствам у выглядзе аказання бясплатнай дапамогі бедным людзям (арт. 57).

Статут замацоўваў права кліента адмовіцца ад свайго адваката, замяніўшы яго іншым, або самастойна прадстаўляць свае інтарэсы. Як і ў Статуце 1566 г., караюцца нядобрасумленныя паводзіны пракуратараў, у асобных выпадках нават смерцю.

Дубляванне і падабенства асноўных палажэнняў, датычных дзейнасці пракуратараў у Статутах 1566 і 1588 гг., сведчыць аб тым, што інстытут прафесійнай адвакатуры ў той перыяд ужо стала працаваў і быў досыць звыклай з'явай.

Выдатныя фармулёўкі аб пракуратарах, замацаваныя ў Статуце 1588 г., дзейнічалі аж па XIX ст.

У якасці высновы можна сцвярджаць, што да часу прыняцця другога Статута ВКЛ заканадаўчая распрацоўка асноўных, найбольш важных палажэнняў аб дзейнасці пракуратараў, у тым ліку замацоўваючых іх арганізацыйнае афармленне як прафесійнай супольнасці, была практычна завершана. Найбольш значнае замацаванне дзейнасці пракуратараў адбылося ў Статуце 1566 г. Такіх інтэнсіўных змен заканадаўства не ведала нават падчас прыняцця Статута 1588 г.

Такім чынам, у артыкуле выведзена гісторыка-прававая мадэль узнікнення і развіцця інстытута адвакатуры на тэрыторыі Беларусі, заснаванай на развіцці дзяржавы, грамадства, яго сацыяльна-эканамічных і культурных асаблівасцях. У XVI ст. заканадаўчае рэгуляванне судовага працэсу было накіравана на яго фармалізацыю, што спрыяла пашырэнню супольнасці правазнаўцаў, выконваўшых адвакацкія функцыі. Зроблена выснова аб тым, што адвакаты сталі неад'емным суб'ектам судовага працэсу ў ВКЛ.

[1] Гл.: Статут Великого Княжества Литовского 1529 года. Минск, 1960. С. 76.
[2] Литовская метрика (1533–1535). 8-я книга судных дел. Вильнюс, 1999. С. 35 (Д. № 19).
[3] Гл.: Литовская метрика (1528–1547). 6-я книга судных дел. Вильнюс, 1995. С. 201–202 (Д. № 284).
[4] Литовская метрика (1533–1535). 8-я книга судных дел. Вильнюс, 1999. С. 31 (Д. № 10).
[5] Гл.: Борисенок С. Утворення професійноі адвокатурі в Литовсько-руській державі // Працы комісіі для вывучэння історіі заходне-русско-украинского права. Київ, 1927. С. 94.
[6] Литовская метрика (1533–1535). 8-я книга судных дел. Вильнюс, 1999. С. 32 (Д. № 15).
[7] Гл.: Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 года. Мінск, 2003. С. 116.
[8] Там жа. С. 116 (арт. 32).
[9] Там жа. С. 117 (арт. 36).
[10] Там жа.
[11] Там жа.
[12] Там жа. С. 117–118 (арт. 36, 37).
[13] Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Мінск, 2005. С. 90.
[14] Там жа. С. 90.

Паступіў у рэдакцыю 25.04.12.

*Алена Аляксандраўна Гур'ева* – аспірантка кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права. Навуковы кіраўнік – доктар юрыдычных навук, прафесар кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Т. І. Доўнар.